Стоп-кадр

# Кожны зарабляе як можа

Пажылы мужчына раздабыў бутэльку і старанна здзірае з яе этыкетку, каб здаць у пункце па прыёме шклатары. Зборшчыкаў бутэлек можна нярэдка ўбачыць у Мінску і іншых гарадах Беларусі.

**Фота IREX/ProMedia.**

## 47 працэнтаў жахароў Беларусі, апытаных сацыёлагамі, адмоўна ставяцца да магчымага далучэння Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі

Падчас рэспубліканскага сацыялагічнага апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПІ) у чэрвені бягучага года, каля 1.500 рэспандэнтам — прадстаўнікам розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва краіны — было прапанавана адказаць на пытанне: "Як Вы ставіцеся да ініцыятывы далучэння Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі?" Каля паловы (47 працэнтаў) апытаных адказалі, што "адмоўна". Станоўча да саюза з Югаславіяй ставяцца 17 працэнтаў рэспандэнтаў. 6 працэнтаў прадстаўнікоў насельніцтва Беларусі да маючага адбыцца інтэграцыйнага працэсу ставяцца абыякава. І амаль адна трэцяя частка рэспандэнтаў — 30 працэнтаў — не адказала або ёй было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## Рэспубліканскі камітэт "Свабоду Чыгіру і Беларусі" разлічвае да восені стаць самай масавай і найбольш актыўнай арганізацыяй у Беларусі

Такая задача была пастаўлена на пасяджэнні Рэспубліканскага камітэта "Свабоду Чыгіру і Беларусі". На думку старшыні камітэта Аляксея Караля, жонкі і адваката Міхаіла Чыгіра Юліі Чыгір, а таксама іншых прамоўцаў, гэта — рэальна. З моманту ўтварэння камітэта (16 чэрвеня) і па стане на пачатак ліпеня створана ўжо каля 80 раённых камітэтаў гэтай арганізацыі.

На пасяджэнні таксама адзначалася, што стварэнне камітэтаў — гэта адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі сталіца арганізацыйна фіксуе ініцыятыву рэгіёнаў, а не наадварот. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі розныя формы працы камітэтаў, якія павінны стаць нешаблоннымі і нетрадыцыйнымі.

**Уладзімір КОТ.**

Лёсы людскія

# Праўда і домыслы пра Саюз беларускіх патрыётаў

**"...Асабіста для мяне згаданыя падзеі звязаны з тым шэрым зімовым ранкам, калі энкавэдысты забіралі з нашае вёскі агульнага ўлюбёнца школы настаўніка Янку Рымдзёнка. З таго часу на ўсё жыццё засталася ў маёй памяці балючая зарубка. Мне тады толькі ішоў дзесяты год. Але ўжо тады я адчуў нейкую вялікую страхавітую загадку, што хавалася за арыштам Я.Рымдзёнка, за адначасовымі павальнымі арыштамі ў Глыбоцкай педвучэльні. І вось нарэшце, праз 45 гадоў, мне адкрылася, што ж было ў той лютаўскі ранак: арыштавалі аднаго з сяброў Саюза беларускіх патрыётаў", — так піша ў прадмове да кнігі "Гарт" укладальнік выдання Герман КІРЫЛАЎ.**

Прозвішча гэтага пісьменніка і журналіста добра вядома ў Шаркоўшчынскім раёне. Ён нарадзіўся і вырас у Шкунціках, працаваў у Шаркоўшчыне і наогул ніколі не парываў сувязей са сваёй маленькай, як кажуць, радзімай. Добра вядома нам кніга Г.Кірылава "Пах жыта". А пра што расказвае новае выданне? Гэта дакументальны твор. Кніга, выдадзеная ў Мінску ў мінулым годзе выдавецтвам "Наша Ніва", складаецца з успамінаў дванаццаці сяброў Саюза беларускіх патрыётаў — падпольнай маладзёжнай арганізацыі, якая дзейнічала ў 1945—1947 гг. у Глыбокім і Паставах і была разгромлена МГБ БССР. Герман Кірылаў сабраў расказы гэтых людзей, былых вязняў ГУЛАГа, зрабіў літаратурную апрацоўку іх успамінаў і аб'яднаў у адметную кнігу, чытаць якую цікава і цяжка адначасова.

Асабліва нам, жыхарам Шаркоўшчынскага раёна: пра свае пакалечаныя бязлітаснай машынай рэпрэсій лёсы расказваюць на яе старонках нашы землякі — людзі, якіх ведалі калі не мы самі, дык нашы бацькі, нашы настаўнікі. Калі здарыліся падзеі, аб якіх ідзе размова ў кнізе, яе героі былі зусім маладымі — 18—19-гадовымі юнакамі і дзяўчатамі. Хтосьці яшчэ вучыўся ў педвучэльні, хтосьці толькі-толькі пачаў працаваць у школе... І, вядома ж, гэта былі не горшыя маладыя людзі, а наадварот, бо менавіта здольнасці да навукі, сумленнасць, актыўная грамадзянскасць вылучылі іх сярод тагачаснай беларускай моладзі і ў пэўнай меры паспрыялі таму, што сталі яны студэнтамі педагагічных вучэльняў.

Што ж адбылося ў тыя першыя пасляваенныя гады ў Глыбокім і Паставах, прыглушаным рэхам пракацілася па вёсках, адкуль былі родам або дзе працавалі маладыя настаўнікі?

Аб гэтым расказалі самі ўдзельнікі падзей, якія прыязджалі на сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі Германавіцкай сярэдняй і Шкунціцкай базавай школ. Ініцыятарам яе правядзення быў мясцовы краязнаўца Кліменцій Кожан, які ў свой час вучыўся разам з Германам Кірылавым у Шкунціцкай школе і да гэтага часу падтрымлівае з апошнім творчыя і сяброўскія сувязі.

**Расказвае Леў Ніканавіч БЯЛЕВІЧ:**

*— Нарадзіўся я ў сялянскай сям'і ў 1928 годзе ў вёсцы Багуцкія, што ў 20-ці кіламетрах ад Дзісны. Вучыўся ў школе ў мястэчку Язна, у сямігодцы ў Чарневічах. Пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ўвосень 1944 года адкрылася ў Глыбокім педагагічная вучэльня. Вырашыў паступаць туды, здаў экзамены і быў прыняты. Да вучобы мы ставіліся вельмі сур'ёзна. Але ў хуткім часе зразумелі, што ў вучэльні амаль не выкарыстоўваецца беларуская мова, што замоўчваецца наша гісторыя, культура, зноў выпадаюць з праграм калісьці забароненыя бальшавікамі імёны пісьменнікаў, грамадскіх дзеячоў. Стала відавочнай палітыка русіфікацыі.*

*Спачатку мы спрабавалі выстаўляць патрабаванні да адміністрацыі. Нам быў дадзены намёк, што на гэтую тэму лепей памаўчаць, каб не наклікаць на сябе бяды. Але гэта не заглушыла нашую трывогу за беларускую справу, за родны край. Аднадумцы вырашылі згуртавацца, і неўзабаве такі негалосны гурток завязаўся. Нашы важакі былі Васіль Мядзелец, Антон Фурс, Алесь Юршэвіч.*

*Прыблізна ў той час аналагічнае аб'яднанне моладзі ўзнікла і ў Пастаўскай педагагічнай вучэльні. Сваю мэту мы бачылі даволі сціпла: павышаць уласную нацыянальную свядомасць і свядомасць людзей, побач з якімі будзем жыць і працаваць. Па нашай агульнай ініцыятыве глыбоцкая і пастаўская арганізацыі аб'ядналіся. Так узнік Саюз беларускіх патрыётаў. Праіснаваў ён нядоўга. Сярод нас аказаліся падасланыя энкавэдыстамі сексоты — даносчыкі, якія ўсё дакладвалі органам МГБ. Пачаліся арышты, допыты. Нас білі, зневажалі. Потым прывезлі ў Мінск, раскідалі па розных турмах.*

*16 чэрвеня 1947 года пачаўся суд над намі. Судзіў ваенны трыбунал.*

*Чацвярым пагражала смяротная кара, але якраз выйшаў указ аб адмене такой меры пакарання, і яна была заменена для нашых сяброў Мядзельца, Асіненкі, Юршэвіча і Лагунёнка на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах. Мне ж быў прысуд: 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 — паражэння ў правах. Хутка нас адправілі па этапу, аж пакуль не апынуліся ў горадзе Інта, непадалёку ад Варкуты. Спаўна давялося пазнаць, што такое ГУЛАГ. Працаваў на шахтах, рудніках. Працаваць даводзілася вельмі цяжка, часам у невыносных умовах. Людзі хварэлі, паміралі. Я таксама перанёс хваробы, аперацыю без наркозу на страўніку... А яшчэ гэтае жудаснае пачуццё нявoлі. На працу і назад у лагер — толькі пад канвоем. "Шаг вправо, шаг влево — конвой стреляет без предупреждения". Гэта так урэзалася ў свядомасць, што нават і пасля вызвалення ў 1955 годзе, ідучы па гораду ўжо вольным, здавалася, адчуваў за спіной канваіра...*

Затаіўшы дыханне, слухалі вучні аповяды былых вязняў ГАЛАГа, задавалі шматлікія пытанні. Для школьнікаў гэта маласвядомая старонка гісторыі, для гасцей — іх жыццё, маладосць.

Жывая гісторыя ў лёсах людзей. Дотык да яе выклікае боль і наіўнае непаразуменне: чаму, за што? Не магла стрымаць хвалявання Марыя Усцінаўна Бабко, намеснік старшыні Полацкага літаб'яднання "Надзвінне", метадыст Полацкага цэнтра нацыянальнай культуры і рамёстваў. Яна была вядучай сустрэч у Германавічах і Шкунціках.

**Расказвае Марыя Рыгораўна БЯЛЕВІЧ (БАБІЧ):**

*— Нас усёй сям'ёй судзілі па адной справе. Мой брат, Іван Бабіч, таксама быў сябрам нашага Саюза, але пэўны час я нават не ведала аб гэтым. Ён трымаў сваю тайну. Арыштаваны былі і ён, і я. А маму нашу, Ганну Бабіч, вінавацілі за тое, што не данесла на нас, што пакрывала дачку і сына. За тое ж быў асуджаны і наш дзядзька Аляксей. Пасля арышту нам ужо не давялося ўбачыць матулю, а з братам выпадкова сустрэліся ў лагеры. Калону вязняў-мужчын вялі па дарозе, дзе мы працавалі, і я ўбачыла Янку. Аднак нават перагаварыць нам не ўдалося. Сваё пакаранне я адбывала таксама на Поўначы (10 гадоў пазбаўлення волі і 5 — паражэння ў правах). Зрабілі з нас ворагаў Беларусі. Абвінавацілі ў здрадзе Радзіме. Усё перавярнулі наадварот. Атрымалася, што любіць Радзіму і жадаць ёй дабра — злачынства.*

*Працавала на лесапавале, на будаўніцтве чыгункі Ангара — Лена. На вокнах у нашых бараках былі краты, хоць зону акружала агароджа з калючага дроту ў некалькі радоў, з узмоцненай аховай на вышках. Знясільваючая праца, здзекі. Прозвішча, імя ўспамінаць забаранялася. Нумары насілі на сабе, я не забылася яго і сёння — С-281...*

Пасля вызвалення ў 1956 годзе яны хутчэй імкнуліся на Радзіму, у Беларусь, у родныя мясціны. І з горыччу разумелі, што тут ім не рады, тут яны не патрэбны. Варта было толькі паказаць пашпарт, і ніхто не хацеў браць на работу: для асуджаных за "палітыку" вакансій не было. Брала роспач: як жыць? Пасля зняволення знаёмыя раней Марыя Бабіч і Леў Бялевіч сустрэліся ў Глыбокім і вырашылі звязаць свае лёсы. Згулялі вяселле, а потым... паехалі ў Інту. Там працавалі на шахце аж да выхаду на пенсію. Наогул, у тых мясцінах, на Поўначы, засталася жыць і працаваць ці не большая частка былых палітычных вязняў. А людзі яны былі сумленныя, разумныя, працавітыя, і не толькі адбудавалі гарады і пасёлкі, але і стварылі там, дзе жылі, сваю атмасферу жыцця, адносін паміж людзьмі: таварыскую, адухоўленую, інтэлегентную. У 1983 годзе Марыя і Леў Бялевічы вярнуліся ў Беларусь, пабудаваўшы ў Полацку кааператыўную кватэру.

Адзін з удзельнікаў сустрэчы (і герояў кнігі) жыве ў Шаркоўшчынскім раёне, у Гарадцы. Родам жа ён з Дворышча, што за Лужкамі, у 1947 годзе закончыў Глыбоцкае педвучылішча.

**Расказвае Станіслаў Іосіфавіч САВІК:**

*— Я нават і не ведаў, што ёсць такая арганізацыя — Саюз беларускіх патрыётаў. Але так атрымалася, што ў час вучобы ў Глыбокім я жыў на прыватнай кватэры разам з кіраўнікамі арганізацыі: Васілём Мядзельцам, Антонам Фурсам. У гэтых жа гаспадароў, Ізмайлавічаў, у другім пакойчыку жылі на кватэры чатыры дзяўчыны. І вось аднойчы ў суботу, якраз напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет БССР, мы наладзілі вечарыну. Прыйшло да нас нямала моладзі. А ў разгар танцаў з'явіліся энкавэдысты, праверылі ва ўсіх дакументы і арыштавалі Мядзельца і Фурса. Усе былі ашаломлены. А назаўтра адна з дзяўчат, Зіна Сайкоўская, паказала нам жмут папер, што знайшла на пліце ў гаршчку. Гэта былі пратаколы сходу арганізацыі. Параіўшыся, вырашылі спаліць іх. Іван Мялешка ўкінуў іх у пліту. Сам жа ён потым расказаў аб усім аднаму з выкладчыкаў вучылішча, а мяне ўгаварыў у выпадку дазнання сказаць, што паперы спаліў я. Так і было зроблена, і на свой сялянскі розум я не бачыў у гэтым якіх-небудзь доказаў сваёй віны... Арыштавалі мяне ў 1948 годзе, калі я ўжо пачаў працаваць у Відзы-Лаўчыноўскай пачатковай школе. Прысуд — 10 гадоў зняволення і 5 — паражэння ў правах. Па этапу адправілі ў Магадан. Там у рудніку здабываў кобальт. Вельмі многа людзей загінула. Нас выручала, дзякуй Богу, вясковая загартоўка. У 1956 годзе вярнуліся на радзіму, але нідзе на працу не бралі, і зноў паехаў на Калыму. Вучыўся завочна ў тэхнікуме, працаваў на геадэзічным прадпрыемстве. У 1979 годзе прыехаў у Беларусь, у "Гарадцы" працаваў механікам...*

Былыя вязні ГУЛАГа, якія праходзілі па справе Саюза беларускіх патрыётаў, былі рэабілітаваны. Гэта не значыць — памілаваны, не значыць, што "віна" ім была даравана. Гэта значыць — што віны не было наогул. Вярхоўным судом Беларускай ССР справа ў 1992 годзе па ініцыятыве вядомага пісьменніка Сяргея Грахоўскага і некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі была перагледжана, прысуд адменены, і справа спынена, як сказана ў даведцы аб рэабілітацыі, "за адсутнасцю саставу злачынства". Значыць, афіцыйна было прызнана, што нашы героі — не вінаватыя перад Айчынай, што тады, у 1947—1948 гадах яны пацярпелі бязвінна. Я спецыяльна звяртаю на гэта ўвагу.

Пакідаю табе, дарагі чытач, права самому ўявіць, што адчувалі, што перажылі маладыя нашы землякі, добрыя, шчырыя, у многім наіўныя сялянскія дзеці, арыштаваныя, несправядліва асуджаныя, сасланыя ў няволю, на знясільваючую працу і здзек у шахты і руднікі Калымы і Магадана, дзе, апроч фізічных пакут, на кожным кроку цярпелі прыніжэнне чалавечага гонару. Асабіста я, пазнаёміўшыся з гэтымі людзьмі, адчула балючы цяжар у душы ад таго, што гэта было ў нашай гісторыі.

...У час прэзентацыі кнігі "Гарт" у Полацку ў музеі кнігадрукавання здарыўся нечаканы выпадак. З залы выйшаў немалады ўжо чалавек і ўпаў перад былымі вязнямі на калені: "Даруйце мне, даруйце, я быў канваірам!". Ён плакаў і маліў аб даравanні, і гэта было цяжка бачыць, чуць, і лепш бы, напэўна, гэткай, нібы кіношнай, сцэны не было на той сустрэчы. Так лічыць Марыя Бабко, якая і расказала гэту гісторыю.

Жыццё часам падкідвае эпізоды, якія не прадугледзіш ніякім сцэнарыем, і ў гэтым ёсць, безумоўна, свая, унутраная логіка падзей...

Калісьці мы чыталі вядомую ўсім кніжку "Як гартавалася сталь". А вось расказанае мной — гэта іншая гісторыя. Толькі тады і цяпер не дае спакою адно пытанне: што трэба зрабіць, каб не пакутавалі больш людзі ў тым пякельным горане?..

**Людміла ЛАБАЧЭЎСКАЯ.**
г. п. Шаркоўшчына.

## Медаль минской школьницы

В Вашингтоне закончился Международный фестиваль "Детское творчество-2000" (Child Art 2000), организованный Международным фондом детского творчества.

В нем приняли участие юные художники из 42 стран мира. Республику Беларусь представляла минская школьница Лиза Ленкевич. Ее работа признана одной из лучших и отмечена медалью.

Отдохнем!

# Лето: кого куда тянет...

**Казалось, что в такое жаркое лето, что выдалось в этом году, все люди просто мечтают об отпуске. Дабы понежиться на пляже у теплого моря или же вкусить все прелести дачной жизни. Но, как выяснилось, большинство известных людей Беларуси не собираются в отпуск. У них и в тридцатиградусную жару горячая рабочая пора.**

## Политикам отдыхать некогда

Когда я спросила у самого неугомонного депутата Верховного Совета 13-го созыва **Валерия Щукина**, когда он собирается в отпуск, Валерий Алексеевич моментально ответил: "Отпуск... А что это такое? У меня его уже много лет не было".

Коллеги Щукина по депутатскому корпусу этим летом также будут при деле. У **Ольги Абрамовой** отпуска в этом году не будет, поскольку ее сын поступает в БГУ на философский факультет. И естественно, ему нужно оказать моральную поддержку. Хотя обычно Ольга Абрамова предпочитает проводить свой отпуск на даче или же под Одессой, недалеко от Очакова.

И председатель Верховного Совета 13-го созыва **Семен Шарецкий** не поедет, как обычно, в Трусковец пить тамошнюю лечебную воду. "В этом году 20 июля заканчивается срок полномочий президента Беларуси, — говорит Семен Георгиевич. — И я как председатель Верховного Совета 13-го созыва не могу себе позволить, чтобы из-за моих личных интересов пострадали конституционные принципы. Вынужден находиться на работе и выполнять требования Конституции".

## Погружение в творчество

Режиссер **Юрий Хащеватский** — автор "Обыкновенного президента" — давно уже не бывал в отпуске. "Я же сейчас безработный, — говорит Юрий Иосифович. — А значит, у меня не может быть отпуска. Есть заказ — работаю". Нынешнее лето Юрий Иосифович проведет у монтажного компьютера за несколькими работами. Будет делать фильм для студии "Татьяна" о судьбе брошенных детей. И не только. Недавно было достигнуто соглашение о том, что Хащеватский будет снимать фильм по книге Светланы Алексиевич "Чернобыльская молитва". Кроме этого, режиссер получил заказ от немецкого канала ЦДФ и 16 июня поедет в Варшаву подписывать контракт о создании фильма. Это будет картина о свойствах народов создавать себе кумиров на примере Владимира Ильича Ленина. Этим же летом Юрий Иосифович также хочет поработать на предвыборную кампанию "Правого дела" в России. "К сожалению, для Беларуси сейчас многое решается именно в России, — считает режиссер. — И все нормальные силы в Беларуси должны помочь там противостоять левым силам".

**Александр Потупа** — председатель наблюдательного комитета Белорусской правозащитной конвенции — считает отпуск хорошим отключением от текучки и "погружением в творчество", хотя больше, чем на две недели, "вырываться" из рабочего графика ему никогда не удавалось. В прошлом году он отдыхал на Кипре, а этим летом Александр Сергеевич планирует провести отпуск, как он говорит, "в тихом подпольном варианте" — в Беларуси. Будет заканчивать книгу. Место и время отпуска Александр Потупа назвать не захотел, поскольку, по его мнению, "именно тогда мой отпуск просто не состоится".

Рабочим будет это лето и для поэта **Геннадия Буравкина**. Свое конституционное право на отпуск он намерен реализовать только осенью. В Беларуси. Пока что еще не решил где. Сказал: "Пойду в отпуск золотой осенью, чтобы побыть рядом с природой и что-нибудь написать".

## Лучший друг — вентилятор

**Элеонора Езерская** пока находится в раздумье, где лучше провести отпуск, — в санатории "Белая Русь" в Туапсе или же поехать в Испанию. Скорее всего, предпочтет Кавказ. "Путешествия и отдых — это совершенно разные вещи, — говорит Элеонора. — Я консервативна и считаю, что отдыхать лучше всего в хорошем санатории. Именно отдыхать, а не дышать бензином". А пока в ожидании отпуска у нее появился новый, самый лучший друг — вентилятор, который очень помогает при нынешней дикой жаре.

А народный артист Беларуси **Валентин Белохвостик**, как обычно, пойдет в отпуск в августе. "Никогда не брал путевку в Дом отдыха или санаторий, — говорит Валентин Сергеевич. — Палатка, костер, река и хорошая рыбалка — все, что мне нужно. Я рыбачил почти на всех реках Беларуси: на Березине, Волме, Вилии... В этом году, возможно, будет поездка на Витебщину. Этим летом, правда, рыба ловится плоховато. Сказался весенний паводок, когда рыба "гуляла" по траве, а потом — и летняя жара. Сейчас рыба находится на дне без движения. Надеюсь, что к августу жара спадет. А вообще-то для меня важен не улов, а сам процесс. Но на уху мне рыбы всегда хватало..."

Председатель Женского образовательно-консультационного центра **Людмила Петина** также надеется на отпуск в августе. "Хочу поехать к морю, поскольку пять лет там уже не была. Все прошлое лето у меня были деловые поездки в Америку и в Германию. Так, по-деловому, сложилось и это лето". 8 июля Людмила Семеновна уехала в Германию, в Дортмунд, для осуществления одного партнерского проекта.

***

Как оказалось, в этом году не все стремятся к заморским берегам, предпочитая для отдыха родные места. По разным соображениям. А для многих это жаркое лето будет "горячим" периодом.

А как проведете свой отпуск вы?

**Анна СОУСЬ.**

Пратэст

## "У маім акне святла не будзе..."

Мы шмат чаго не ўмеем. Проста нас гэтаму не вучылі. Пратэставаць — таксама. Ну хіба гэта навука, калі "з-пад палкі", у абавязковым парадку ў свой час спынялі работу цэхаў і выводзілі рабочых на мітынг пратэсту пад лозунгам "Далоў агрэсію ЗША супраць Грэнады"?

Вось так і жылі! Вось так і жывём... У многім таму, што не ўмеем, не можам адэкватна рэагаваць на надзённыя свае праблемы.

Праўда, апошнія пяць гадоў сяк-так спрабуем, вучымся пратэставаць, набіваючы шышкі і... аскоміну. Многія ўчарашнія пратэстанты сёння скептычна махаюць рукой у бок нешматлюдных калон апазіцыі. Маўляў, усё адно і тое ж, ды толку!.. Думаю, даўно пара было б падумаць пра новыя формы грамадскага пратэсту.

А тут няўмольна набліжаецца такая неардынарная за пяць апошніх гадоў падзея! Так, так, гэта сапраўды можа стаць падзеяй, калі... Калі будзе выказаны сапраўдны шырокі пратэст. Для гэтага і спатрэбяцца неардынарныя яго формы. Вядома — мірныя, канстытуцыйныя, але ўражальныя.

А што калі не ўключаць святло ў кватэрах жыхароў Беларусі ўвечары з 20 на 21 ліпеня? Вядома, я не магу гэта зрабіць за ўсіх. Я магу гэта зрабіць толькі ў сваёй кватэры. Суседзі ды ўсе астатнія хай вырашаюць самі. Цяпер цямнее позна, і ўвечары можна абысціся і без святла. Можна проста пагуляць па вуліцы ці раней легчы спаць... І няхай сабе зеўрыцца цемра з майго (а мо і не толькі з майго) акна! Акна, якое многае сімвалізавала б сёння ў нашым змрочным жыцці.

Вось так. Як сказаў бы паэт:

*У маім акне святла няма...*
*У маім акне святла не будзе,*
*Покуль не паслепнуць сілы Зла,*
*Не глынуць свабоды*
*прагна грудзі.*

**Мікола ТРАФІМЧУК,**
**паэт.**
**Ганарар — для газеты!**
Мінск.

Жизнь как она есть

# 800 баксов за путевку в ад

В прежние времена слово "безработный" казалось нам каким-то абстрактным и экзотическим. Ныне оно вошло в нашу жизнь так же прочно, как очереди, дороговизна и безденежье.

Впрочем, некоторые наши оптимисты могут со мной поспорить. И возопят:

— Подойдите к первому же столбу и убедитесь, что на нем нет живого места: он весь обклеен приглашениями на работу. И какую! Высокооплачиваемую. В сфере управления. С заработками до тысячи долларов в месяц. Только не ленитесь.

Да, есть люди, которые верят в эти сказки фонарных столбов. Они жадно читают зазывающие строчки и, оглядевшись по сторонам, дрожащими пальцами срывают бахрому с телефонными номерами. Чтобы другие не прочитали и не перебили доходное место. И пулей мчатся к вырисовывающемуся из объявления Клондайку.

Зазывалы встречают их радушными улыбками, просвещают на предмет того, как хорошо иметь много денег, и иногда даже показывают фотографии, запечатлевшие фирмачей на фоне Эйфелевой или Пизанской башни. Но на вопросы визитеров о характере работы, обязанностях, оплате и прочих прозаических вещах зазывалы отвечают хитровато и уклончиво, так что даже после самого задушевного разговора пришедший не узнает о своей новой работе ничего нового. Зато ему предложат поучаствовать в семинаре: работодателю нужно провести тесты и отобрать достойнейших из достойных. Но за эту пробу нужно будет выложить несколько долларов. Простаки раскошеливаются. А после семинара их зачастую уведомляют, что они не прошли конкурсного отбора и денежки, что называется, плакали. Более ушлые искатели работы не зацикливают свое внимание на одной фирме и, набив карманы лоскутками от объявлений, путешествуют по всем фигурирующим в них адресам. И узнают, что тесты и отборы кое-где можно пройти "на халяву".

Прошедший сквозь конкурсное сито бедолага-безработный не скрывает своей радости. Думает: "Ну теперь-то уж потекут ко мне денежки". Но на деле новая "работа" приносит не зарплату, а ведет лишь к новому этапу раскошеливания. Теперь нужно пройти обучение. И чаще всего за него приходится платить. После того как человек наполнит свою голову совсем не нужными ему знаниями и основательно опустошит свой кошелек, перед ним откроется печальная истина: весь смысл обучения сводился к тому, чтобы научить его продавать товары весьма необычного свойства: дорогостоящие косметику, кремы, бальзамы, фильтры для воды, "Гербалайфы" и прочие биодобавки... Их надо объявить волшебными, чудодейственными и потому запросить цену, многократно превышающую привычные для нас цифры.

И прошедший обучение менеджер, а попросту — самый обыкновенный продавец — должен найти желающих купить эти достижения забугорной цивилизации. От этого целиком зависит его зарплата. Если ничего не продано, менеджер не получит ни рубля. А ведь почти все мы нищаем день ото дня. И потому не много найдется людей, готовых раскошелиться на товар с астрономической ценой. Пусть даже он будет и лучший в мире.

Я знаю женщину, которая в свое время клюнула на заманчивое объявление и занялась продажей "Гербалайфа". В прежние времена деньги у людей водились и торговля давала сказочные барыши. Аппетит, как известно, приходит во время еды. Женщина так уверовала в успех своего бизнеса, что заложила квартиру и купила чуть ли не вагон так хорошо расходившегося товара. И осталась с ним. Уже без квартиры. Новые экономические веяния так опустошили карманы наших сограждан, что в считанные месяцы им пришлось основательно урезать свои покупательские запросы.

Читая эти строки, кто-то может подумать: а стоит ли связываться с жаждущими наживы капиталистами, которые объегоривают народ? Надо искать работу в государственных конторах. Уж там-то не обманут.

Примерно так рассуждали те, кто решил устроиться на работу в наше самое, наверное, богатое и стабильное предприятие — солигорское ПО "Беларуськалий". Но там тоже сидят умные люди, которые понимают, что, принимая человека на работу, они оказывают ему очень ценную услугу.

Заработки в "Беларуськалии" — одни из самых высоких в республике. Но, несмотря на обилие желающих туда попасть, с некоторых пор вопросы трудоустройства в это объединение стали решаться на удивление быстро. У калийщиков появился один хороший начальник по фамилии Румынин. Это был редкой души человек. Он никогда не был волокитчиком и бюрократом. Он стал настоящим ангелом для многих солигорчан. Особенно для тех, чьи трудовые книжки были испещрены записями о прогулах и пьянках. Если отчаявшийся в поисках работы человек приходил к нему, Румынин не водил его за нос, не подвешивал на ниточку неопределенности, а говорил четко и ясно:

— На работу я тебя возьму, но за это ты должен принести баксы. Не для меня. Для моего начальства.

Ставки были разными. По "справедливости". С тех, у кого не жизнь, а сплошная Доска почета, "белкалиевский" шеф запрашивал пятьсот долларов. Он поднимал планку до восьмисот, если пристрастие человека к "зеленому змию" было пропечатано у него не только в трудовой книжке, но и на лбу. А для тех, кто уже работал в "Беларуськалии", благородный Румынин установил систему льгот. Если человек хотел перейти с низкооплачиваемой работы (по местным меркам) на подземный участок, где деньги загребают лопатами, шеф брал с него всего-навсего триста баксов.

И никто из принятых им на работу не "заложил" своего благодетеля. Люди с радостью выкладывали огромные деньги лишь за то, чтобы им позволили спуститься под землю и адским шахтерским трудом не без риска для жизни и вреда здоровью в поте лица выстрадать свою зарплату. Ибо это было гораздо лучше, чем безрезультатно обивать пороги контор и просыпаться по ночам от мысли, что можешь просто-напросто умереть с голоду.

Румынина сдали другие "белкалиевские" начальники. Он, как выяснилось, ни с кем не хотел делиться. Но когда его забрали в СИЗО, принятые им на работу люди на допросах у следователей молчали так же, как герои-подпольщики в застенках гестапо. Даже под угрозой самим попасть под уголовную статью шахтеры пытались спасти от тюрьмы человека, который хоть и ободрал их как липку, но избавил от участи безработных. Но у самого Румынина не хватило такой вот пролетарской твердости, и следователи его "раскололи". Шеф признался в том, что за свою доброту в вопросах приема на работу он получил в общей сложности три с половиной тысячи долларов. Суд же оценил эту доброту шестью годами отсидки. У каждого своя мерка.

Когда мы узнаем о таких вот историях, нам остается утешаться лишь заверениями наших политиков. О том, что по темпам экономического развития Беларусь вышла на первое место в мире и с каждым годом мы будем жить все лучше и лучше. Потому что безработица, которую мы теперь прочувствовали на собственной шкуре, — это слишком уж страшное слово.

**Сергей НАВОЕВ.**

## Кіраўніцтва Чарнобыльскай АЭС падпісала кантракт на будаўніцтва новага сховішча для адпрацаванага ядзернага паліва станцыі

Кіраўнікі ўкраінскай кампаніі "Энергаатам", Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і міжнароднага канцэрна, які ўзначальвае французская кампанія "Фраматам", падпісалі кантракт на праектаванне і будаўніцтва новага сховішча для адпрацаванага на ЧАЭС ядзернага паліва. Як паведамляе агенцтва УНІАН, кошт праекта складае 69 мільёнаў еўра. Ён фінансуецца ў межах гранта Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў памеры 118 млн. ЭКЮ, які прадастаўляецца Украіне для рэалізацыі праектаў па падрыхтоўцы і закрыцці Чарнобыльскай АЭС.

Як адзначыў на цырымоніі падпісання кантракта дырэктар ЧАЭС Віталь Таўстаногаў, сёння на станцыі ёсць каля 18 тысяч адпрацаваных паліўных касет. Новае сховішча разлічана на ўтрыманне 25 тысяч касет на працягу 100 гадоў. Тэхналогія захоўвання адпрацаваных касет у новым сховішчы, як запэўніваюць спецыялісты, дазволіць забяспечыць больш высокі ўзровень бяспекі.

**БелаПАН — УНІАН.**

Забастовки

## В Наровле рабочие требуют зарплату

Три дня бастуют рабочие наровлянской МПМК-107 объединения "Мозырьсельстрой".

Каждое утро рабочие с семьями приходят на территорию МПМК. Многие берут с собой детей. Самому маленькому участнику забастовки нет еще и годика.

На столь решительный шаг рабочие решились потому, что "уже не на что купить даже хлеба", зарплату на предприятии не выплачивают с мая месяца. Многие рабочие не получили отпускные за зимние и весенние месяцы. И это при том, что зарплата в МПМК составляет в среднем 5—10 миллионов.

Самое удивительное то, что на забастовку рабочих администрация объединения "Мозырьсельстрой" никак не реагирует. За три дня из Мозыря никто не приехал и не выслушал рабочих. А они настроены решительно. "Сидеть будем до последнего, — говорят отчаявшиеся люди. — И будем требовать не только зарплату, но и то, чтобы ее проиндексировали".

**Светлана СУМОВА.**

Нравы

# Он ударил ее кулаком в лицо... Ни один пассажир автобуса не вмешался

**То, что произошло вечером 7 июля в пригородном автобусе Минск — Уса, иначе как дикостью не назовешь.**

**К пьяным хамам мы все уже притерпелись. Но чтобы настолько...**

Лидия Ивановна, одинокая пенсионерка, 7 июля вечером ехала с дачи домой в пригородном автобусе № 255. Дача у нее далеко — 70 километров от Минска. Ехать надо полтора часа. Села Лидия Ивановна на боковое переднее сиденье. Держала на руках двух маленьких собачонок. "На этом маршруте в автобусе всегда много пьяных, — рассказывает она. — Распивают дешевое спиртное в самом конце автобуса. А этот почему-то пошел вперед..."

"Этот" — пьяный мужик лет пятидесяти, ширинка на штанах расстегнута, ботинки грязные, рожа наглая. Зашел в переднюю дверь автобуса, сел на ступеньки и начал куражиться. Пьяные делятся на два разряда — тихие и буйные. Этот принадлежал ко второй категории. А как буянить без объекта? Им и оказалась Лидия Ивановна...

Начал он с обычной брани, благо, что нашему народу к мату не привыкать. Отхлебнет из бутылки, поставит ее на пол, а как бутыль опрокинется, когда автобус тряханет на неровной дороге, тут же к пожилой женщине: "Что ты, с..ка, мою бутылку толкаешь!". Дальше — больше. Начал совать фиги в лица, сидя на ступеньках, хватал за коленки пожилую женщину. А вокруг — тишина. Лидия Ивановна просила: "Водитель, остановите машину, высадите пьяного". Но все было бесполезно. Никто не обращал внимания.

Когда осоловевший пьяница еще раз сильно схватил ее за колени, Лидия Ивановна не выдержала и оттолкнула его. В ответ получила кулаком в лицо. В автобусе ни один человек не среагировал. А ехать до Минска ей еще предстояло около сорока минут...

Издевательства продолжались. Пьяный, не останавливаясь, матюгал пенсионерку, которая уже не могла сдержать слез. На подъезде к Минску вдруг началась гроза. Автобус остановился. Пьяный вышел на улицу по нужде. Когда водитель что-то поправил в моторе, сел за руль и закрыл двери, пьяница еще оставался на улице. Лидия Ивановна вздохнула. И вдруг... Люди в автобусе закричали: "Водитель, откройте двери! Человек остался на улице!"...

Когда Лидия Ивановна рассказывала мне эту историю, она просто плакала, не в силах забыть недавно пережитое унижение. Самое обидное было то, что в этом автобусе с дачи всегда ездят одни и те же люди, они хорошо друг друга знают, поскольку дачи все рядом. И ни один человек не вступился, не помог одинокой пожилой женщине...

Мы молчим. Всегда молчим. Не хотим вмешиваться. Но когда-нибудь пьяный хам окажется рядом с нами, тогда уж точно никто не вмешается...

**Анна СОУСЬ.**

